РУДОЛЬФ
ГАЕК

# ЖЫЦЬЦЁ І БАРАЦЬБА ЧЭХА-СЛАВАЦКІХ РАБОЧЫХ

БДВ 1931

## Памочнік францускіх капіталістаў.

У цэнтры Эўропы, датыкаючыся на поўначы з Германіяй і Польшчай, а на поўдні з Аўстрыяй і Вэнгрыяй, ляжыць *Чэха-Славацкая рэспубліка.* Невялікая дзяржава, якая займае 140.000 *км* прасторы *з насельніцтвам у 13.600.000 чалавек.* Чэхаў і славакаў—толькі нязначная большасьць. Да вайны чэхі і славакі складалі частку Аўстра-Вэнгерскай монархіі, гэтага стракатага зьмяшаньня народнасьцяй, зьняволеных нямецкім і вэнгерскім дваранствам буржуазіяй.

Сусьветная вайна ўзмацніла ва ўсіх зьняволеных народнасьцяй імкненьне да вызваленьня. Рэволюцыя ў Расіі дапамагала канчатковаму распаду Аўстра-Вэнгрыі, на руінах якой узьнікла незалежная чэская дзяржава. Аднак, ужо самоўзьнікненьне нясло ў сабе ўсе адзнакі таго, што новая дзяржава будзе дзяржавай імпэрыялістычнай.

*Чэская буржуазія аб'ядналася з францускай буржуазіяй, якая,* ня маючы сіл папярэдзіць распад Аўстра-Вэнгрыі, зрабіла ўсё, каб новая дзяржава была яе памочнікам. Пры гэтым Францыя, падтрымліваючы імпэрыялістычныя замыслы чэскай буржу-

азії, пакінула пад яе панаваньнем рад нацыянальных меншасьцяй. Такім чынам вышла, што *побач з 8.760.000 чэхаў і славакаў у Чэха-Славакії налічваецца 3.120.000 немцаў, 745.000 мад'яраў, 460.000 украінцаў, 75.000 палякаў, 180.000 яўрэяў і шмат іншых народнасьцяй.* Цікава, што чэская буржуазія *зжыла са сьвету самастойны славацкі народ*, абвясьціўшы славакаў і чэхаў адным народам, хаця славеншчына мае ўсе адзнакі самастойнай мовы.

*Чэская буржуазія атрымала ў спадчыну 70 проц. прамысловасьці былой Аўстра-Вэнгерскай манархії.* У Чэха-Славацкай рэспубліцы засталася вялізарная мэталяпрамысловасьць з 220.000 рабочых, цукровая прамысловасьць з 80.000, будаўнічая з 200.000 рабочых, горная прамысловасьць з 110.000 рабочых, тэкстыльная з 290.000 рабочых, хэмічная і шкляная з 70.000, браварная з 10.000 рабочых, дрэваапрацовачная з 60.000, харчовая з 60.000, керамічная і фарфаравая з 90.000 рабочых і рад меншых галін прамысловасьці з агульнай колькасьцю 3.250.000 рабочых, у тым ліку 950.000 сельгасрабочых.

## Роля чэскай соцыял-дэмократыі.

*Чэская соцыял-дэмократыя*, абанкроціўшыся ў час вайны, як і іншыя партыі II Інтэрнацыяналу, *бяз усякіх спрэчак стала на службу чэскай буржуазіі* і ўзяла на сябе задачу выратаваць капіталістычны строй новай дзяржавы.

*Захаваньне капіталістычнага міру і супакою — вось што было галоўнай турботай абанкроціў-*

*шыхся лідэраў соцыял-дэмократаў*, на другі дзень пасьля рэволюцыі. А гэта дапамога буржуазіі сапраўды была патрэбна, бо пролетарыят эмораны пакутамі ваеннага часу, быў вельмі ўзбуджаны і рэволюцыйна настроен. Вось што аб тагочаснай ролі соцыял-дэмократыі піша ў 1930 г. рабочы корэспондэнт:

> „Соцыял-дэмократычныя эдраднікі не перасталі пераконваць масы, што рэспубліка яшчэ маладая, што ёй патрэбен мір, што ўсяго адразу дасягнуць нельга. Д-р фр. Сукуп (член прэзыдыуму II Інтэрнацыяналу і самы злосны паклёпнік супроць СССР) на народных сходах са сьлязьмі на вачох перасьцерагаў дэмонстрантаў ад бальшавіцкіх спроб па расійскім узоры, бо „наша" (чэская) буржуазія зусім іншая, чым расійская, у нас усё будзе эроблена, але толькі ня раптам, а мірна і шляхетна".

Соцыял-дэмократыя ўсыпляла рабочых рознымі абяцанкамі ў той час, як буржуазія ліхаманкава будавала свой ваенны апарат, жандармэрыю, паліцыю, войска для прыдушэньня нездаволеньня рабочых у цяжкую мінуту, якая нечакана падыйшла для буржуазіі вельмі хутка.

Буржуазія пасьля пераваротў ўзаконіла 8-гадзінны рабочы дзень і ўстанавіла дзяржаўную дапамогу па беспрацоўі. Гэтыя ўступкі пролетарыяту былі зроблены для таго, каб выйграць час і сабраць сілы для наступленьня. Соцыял-дэмократы не пераста-

валі спасылацца на гэтыя ўступкі, даводзячы выгоднасьць супрацоўніцтва з буржуазіяй, і на нараканьні рабочых яны адказвалі тым, што „за 8-гадзінны рабочы дзень галасаваў сам правадыр народна-дэмократычнай партыі, д-р Крамарж“, які выказаўся тады і за соцыялізацыю шахт і буйных прадпрыемстваў, праўда, адкладваючы гэту справу на далёкую будучыню.

„Пакуль-жа трэба працаваць і эканоміць, паўтаралі соцыял-дэмократычныя міністры працоўным масам, якія сваё расчараваньне жыцьцём у „вызваленай“ дзяржаве выявіў у песенцы:

„Рабочы пытаў: дзе працьвітаньне
бацькаўшчыны
Калі ўсюды рост дарагоўлі?“

## Першая схватка.

Нездаваленьне тым становішчам, якое стварылася ў рэспубліцы, расло вельмі хутка і паскорыла *ўзьнікненьне левага руху, ахапіўшага большасьць соцыял-дэмократычнай партыі.* Тады лідэры соцыял-дэмократыі разам з буржуазіяй рашылі „дзейнічаць“.

9 сьнежня 1920 г. паліцыя абкружыла друкарню партыі і народны дом у Празе, каб вырваць з іх рук левых і перадаць „законным уладарам“—соцыял-дэмократычным лідэрам. У адказ на гэта лявіца абвясціла ўсеагульную забастоўку, якая хутка ахапіла шырокія масы гораду і вёскі. Аднак кіраўніцтва

лявіцы, прапагандуючы в вялікім посьпехам у масах прынцыпы III Інтэрнацыяналу, не змагло ажыцьцявіць гэтыя прынцыпы. Увесь ход забастоўкі, у часе якой справа дайшла да страляніны рэспубліканскай паліцыяй у рабочых, дэмонстраваўшых перад парляментам, да забойства рабочага Кульды, паказаў, *што і лідэры лявіцы заражаны старым соцыял-дэмакратычным выхаваньнем, што яны цягнуцца ў хвасьце мас.*

Забастоўка, ня маючы сапраўднага рэволюцыйнага кіраўніка—комуністычнай партыі,—скончылася праз некалькі дзён паражэньнем. Сотні рабочых былі арыштаваны і, на страх астатнім, у кайданах адведзены ў турму, галоўным чынам Праскую турму на Панкрачы. Буржуазія і соцыял-дэмократы радаваліся. Спроба сіл скончылася ім на карысьць.

Але выпрабаваньне агнём не прайшло для чэхаславацкага пролетарыяту задарма. З гэтай першай буйнай схваткі, пад уплывам шматлікавых турэмных прыгавораў, абвешчаных буржуазным судом, *нарадзілася сапраўдная рэволюцыйная партыя, якая ў 1921* г. *прыняла 21 умову Комуністычнага Інтэрнацыяналу і назву комуністычнай партыі* і якая ў гады далейшых баёў супроць капіталізму і опортунізму ў сваіх-жа радох вырасла ў цяперашні авангард, у сапраўднага правадыра зьняволеных пролетарскіх мас.

Пасьля сьнежаньскай забастоўкі *становішча рабочай клясы працягвала нясупынна пагаршацца. Рабочыя пачалі ўсьведамляць хлусьню соцыял-фа-*

*шыцкай палітыкі клясавага супрацоўніцтва.* Унутры рэформіцкіх саюзаў расла рэволюцыйная опозыцыя, і ў той-жа час тысячы ашуканых рабочых пакідалі рады профсаюзных організацый. У такіх абставінах *сабраўся VII зьезд рэформіцкага профцэнтру,* на якім левае крыло прымусіла высунуць пытаньне: з Масквой ці з Амстэрдамам. За Маскву было падана 222.027 галасоў, за Амстэрдам—338.477 галасоў.

*Пасьля зьезду соцыял-дэмократы ўчынілі яўны раскол, выключыўшы 10 саюзаў, выказаўшыхся за прынцыпы Чырвонага Інтэрнацыяналу Профсаюзаў. Выключаныя саюзы аб'ядналіся* ў адзіны вытворчы саюз *пад назваю Міжнацыянальнага аб'яднаньня саюзаў з вытворчымі сэкцыямі.*

## Рэформісты на службе ў капітала.

*Капіталісты разам з рэформістамі прыступілі да пагоршаньня ўмоў працы і панізілі зарплату на 30—40 проц.* Справа дайшла да таго, што нават міжнароднае бюро працы пры імпэрыялістычнай Лізе нацыі прымушана было ў 1925 г. адзначыць, што Чэха-Славакія ў адносінах зарплаты знаходзіцца на чатырнаццатым месцы сярод Эўропэйскіх дзяржаў і што за ёю стаіць толькі фашыцкая Італія. *Жыцьцёвы ўзровень чэха-славацкага рабочага на 15 і нават на 20 проц. ніжэй даваеннага ўзроўню.* Сярэдняя зарплата мэталістаў за 6 рабочых дзён складае да падсобных рабочых 130 крон, для кваліфікаваных рабочых 180—200 крон, у хэмічнай пра-

мысловасьці—150—200 крон, у гарбарнай прамысловасьці—170—200 крон, гарнякі зарабляюць у сярэднім таксама 160—200 крон у тым выпадку, калі яны працуюць усе 6 зьмен у тыдзень [1]).

Аб умовах зарплаты вельмі ясна сьведчыць буржуазны рэдактар Шэйнпфлуг, які ў газэце „Лідове Навіны" піша аб становішчы рабочых у паўночнаўсходняй Чэхіі наступнае:

„Я гаварыў з рабочымі, якія працуюць на каменяломне. Іх заработак на гэтай цяжкой рабоце складаў 20 крон у дзень. Я гутарыў са сталярамі, са старшымі рабочымі, якія працавалі на будаўнічых работах і ў мэблявай вытворчасьці. Іх дзенная зарплата не перавышала 30 крон. Пры гэтым і тыя і гэтыя працавалі па 10 гадзін у дзень. 8-гадзінны рабочы дзень зьяўляецца да гэтага часу ў паўночнаўсходняй Чэхіі толькі марай аб лепшай будучыні".

„Наша пагадзінная зарплата настолькі нізкая, *што пры 8-гадзінным рабочым дні мы не маглі-б існаваць*,—адказвалі яны на маё зьдзіўленьне. Але і ў самых багатых раёнах вельмі часта работа дрэнна аплачваецца. Мы там знаходзім жанчын, якія, служачы ў трох дамох, зарабляюць у месяц толькі 500 крон, машыністак, якія працуюць у канторах за 400 крон,

---

1) Крон—каля 6 кап.

служачых, атрымліваючых месячную пэнсію ў 600 крон, чыноўнікаў, якія атрымліваюць 1.200 крон, але пры гэтым яны павінны плаціць за кватэру 500 крон, прыказчыкаў, якім іх *зарплаты хапае або на кватэру, або на пракармленьне*, але ні на тое і другое разам".

Вось якія ўмовы зарплаты рабочых Чэха-Славакії нават у асьвятленьні буржуазных газэт! Аднак, ліберальная газэта хоча толькі выклікаць жаласьць да рабочых з малай аплатай, бо баіцца ўспышкі іх нездаволеньня.

А гэта нездаволеньне выяўляецца цяпер ужо ў форме шырока арганізаванага наступленьня мас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і чырвоных саюзаў.

Цяперашнія буйныя экономічныя баі зьяўляюцца толькі прадвесьнікам надыходзячай гіганцкай схваткі паміж працай і капіталам.

Пасьля таго, як прадпрыемцы ўмацавалі свае позыцыі на прадпрыемствах, яны пачалі наступаць на рабочых усё сьмялей і сьмялей. Соцыял-дэмократы палічылі неабходным прыняць зараз-жа меры, каб супакоіць узбуджаных рабочых. Трэба было даказаць, што рэформісты не забыліся пра свае абяцанкі і абавязкі ў адносінах да рабочых.

Першым крокам да соцыялізму,—казалі рэформісты,—павінна быць умацаваньне ўлады рабочых на прадпрыемствах шляхам узаконеньня фабрычна-заводзкіх саветаў.

*У 1921 г. быў выданы закон аб заводзкіх саветах у горнай прамысловасьці* і толькі пазьней—закон аб фабзаўкомах у астатніх галінах прамысловасьці. Аднак якія гэта былі законы! *З фабзаўкому—зброі барацьбу* супроць капіталізму, *гэты закон зрабіў зброю міру і парадку, зброю клясавага міру.* Не без падставы рабочыя пачалі называць гэтыя комітэты не заводзкімі комітэтамі, а „забаўнымі комітэтамі“. Бо ўсюды, дзе фабзаўкомы трапілі ў рукі рэформістаў, яны сталі адданымі саюзьнікамі прадпрыемцаў супроць рабочых. Прадпрыемцу было ня цяжка купіць рэформіцкіх членаў фабзаўкому шляхам падвышэньня ім зарплаты, прадстаўленьня лепшай работы, вылучэньня на пасады майстроў, а рэформіцкія члены фабзаўкомаў адплачвалі капіталісту тым, што служылі ў якасьці заводзкай паліцыі, шпікаў, падказьнікаў, прапагандыстаў рацыяналізацыі і наглядчікаў над рабочымі.

Аб тым, як паводзяць сябе рэформісты, ясна сьведчыць наступны выпадак. У часе барацьбы на мэталічным заводзе Брэйтфэльд Данэк у Празе социял-дэмократычны член фабзаўкому Хуска згубіў нейкі дакумант. Хуска зараз-жа пабег да адміністрацыі заводу і абвінаваціў чырвонага члена фабзаўкому т. Клечака ў кражы дакуманту. Ніякіх доказаў ён прадставіць ня мог. Адміністрацыя паверыла Хуску і Клечака звольнілі па § 82 прамысловага закону, паводле якога можна зволіць такасама і члена фабзаўкому, калі ён зрабіў нячэсны ўчынак. Данос Хускі выклікаў вялікае абурэньне рабо-

чых. На заводзкім сходзе учынак Хускі быў рэзка асуджан нават соцыял-дэмократычнымі рабочымі. Адзін соцыял-дэмократычны рабочы проста заявіў, што ён „адмовіцца ад партыі, калі яна ня выступіць рашуча супроць даносчыка“. Аднак, соцыял-дэмократычная партыя нічога не зрабіла. Наадварот, звальненьне чырвонага члена фабзаўкому засталося ў сіле, а Хуска праз некалькі тыдняў быў вылучан адміністрацыяй заводу на пасаду майстра.

Чырвоныя саюзы і комуністычная партыя вядуць рашучую *барацьбу за заваяваньне фабзаўкомаў і за ператварэньне іх у зброю барацьбы супроць капіталізму*, у орган адзінага фронту зьнізу. Чырвоныя фабзаўкомы ўсё больш і больш робяцца органамі адзінага фронту зьнізу, супроць рэформіцкіх фабзаўкомаў—зброі клясавага ашуканства.

На выбарах фабзаўкомаў у Карлавай Хуце чырвоныя саюзы ў верасьні 1930 г. ліквідавалі рэформізм і заваявалі ўсе 11 мандатаў. Выбары на Віткавіцкіх мэталюргічных заводах далі чырвонаму кандыдацкаму сьпісу за лік соцыял-фашыстаў новых 2000 галасоў.

## Барацьба з ліквідатарамі.

***Зрошчваньне рэформіцкіх профэсіянальных саюзаў з гаспадарчымі організацыямі капіталістаў і нарастаньне крызісу капіталістычнай гаспадаркі высунулі неабходнасьць рашучага павароту ў дзейнасьці чырвоных саюзаў.***

Рашэньні IV конгрэсу Профінтэрну ў самастойным вядзеньні экономічных баёў супроць волі і праз галаву рэформістаў і аб тактыцы адзінага фронту зьнізу былі вынесены своечасова. Аднак гэтыя рашэньні сустрэла адчайнае супраціўленьне опортуністаў і ліквідатараў чырвоных саюзаў, якія *сабатавалі* рашэньні Профінтэрну, праводзячы далей старую практыку супрацоўніцтва з рэформістамі.

Рашаючая большасьць членскіх мас чырвоных саюзаў выказалася за рашэньні Профінтэрну і выбрала новае колектыўнае часовае кіраўніцтва для падрыхтоўкі зьезду і абраньня сталага кіраўніцтва, якое забясьпечыла-б правядзеньне новай лініі.

*Ліквідатары*, убачыўшы безнадзейнасьць сваіх спроб, адмаўляюцца ад іх. *Яны заявілі, што прызнаюць свае памылкі і абяцалі сумленна праводзіць рашэньні IV конгрэсу Профінтэрну.* На практыцы, аднак, яны не пераставалі сабатаваць правядзеньня рашэньняў, чакаючы зручнага моманту для адкрытага выступленьня.

Сярод рабочых тэкстыльшчыкаў, якія належаць да найбольш нізка аплачваемых катэгорый пролетарыяту, даўно ўжо расло бушаваньне. К канцу 1928 г. імі было выстаўлена патрабаваньне аб падвышэньні зарплаты. Соцыял-фашыцкія профсаюзы выступілі зусім адкрыта супроць руху і, каб захаваць мір у прамысловасьці і зламаць рабочае наступленьне, пачалі перагаворы з тэкстыльнымі магнатамі аб выплаце аднačасовага пасобія на дарагоўлю.

Такім чынам, чырвоныя профсаюзы былі пастаўлены перад рашучым іспытам. Перад імі стаялі дзьве магчымасьці: або выступіць на адзінай аснове з рэформістамі і прыдушыць рух або стаць на чале рабочых мас і арганізаваць барацьбу супроць фронту прадпрыемцаў і соцыял-фашыстаў.

Ужо з самага пачатку руху *сярод тэкстыльшчыкаў ліквідатарскія элементы спрабавалі перашкодзіць чырвоным саюзам стаць на шлях барацьбы*. Аднак пад націскам рабочых мас саботаж ліквідатараў чырвоных саюзаў ня ўдаўся. У Паўночна-Чэскай тэкстыльнай акрузе ў лютым 1929 г. выбухнула забастоўка, да якой на працягу некалькіх дзён далучылася больш 8.000 тэкстыльшчыкаў, ня гледзячы на шалёнае цкаваньне з боку соцыял-фашыстаў і капіталістаў. *Але ліквідатары* ня спыніліся у сваёй дзейнасьці. Замест таго, каб пашырыць барацьбу і пашырыць яе на іншыя прадпрыемствы, яны *абвясьцілі адкрытую барацьбу супроць Чырвонага Інтэрнацыяналу профсаюзаў*. На адной з конфэрэнцый імі была прынята рэзолюцыя, у якой адхіляецца далейшая падрыхтоўка барацьбы, а дэлегатам тэкстыльшчыкам даручаецца падпісаць згоду аб дапамозе на дарагоўлю. *Адначасова ліквідатары выпусьцілі лятучку, у якой* яны адмаўляюць факт палявеньня рабочых мас, абвяргаюць разьвіцьцё рэформіцкіх саюзаў у бок соцыял-фашызму і *абвяшчаюць неабходнасьць супрацоўніцтва з рэформістымі*, а замест тактыкі адзінага фронту зьнізу, якая зьяўляецца сродкам мобілізацыі найшырэйшых мас, яны прапа-

навалі зьліцьце з рэформістамі і стварэньне адзіных саюзаў на рэформіцкай аснове.

Было ясна, што гэтыя рознагалосьсі нельга абыйсьці. Бязьлітаснае змаганьне супроць ліквідатараў зьяўляецца нямінучым. Членскія масы ў сваёй большасьці выступілі за лінію Чырвонага Інтэрнацыяналу профсаюзаў і выбралі на наступны зьезд пераважаючую большасьць рэволюцыйных дэлегатаў.

Ліквідатары, багачы няўхільнасьць паражэньня, рашылі павярнуць на другі шлях. Яны адхілілі прапанову Выконбюро Профінтэрну вырашыць спрэчнае пытаньне на зьезьдзе і зьвярнуліся за дапамогай паліцыі. Па запатрабаваньні ліквідатараў паліцыя абкружыла Дом профсаюзаў, адкуль выкінула рэволюцыйных функцыянэраў (пасадных асоб, упаўнаважаных). Адначасова па ўказаньні ліквідатараў былі арыштаваны асобныя профработнікі, а супроць протэстуючых рабочых была выслана паліцыя. Гатоўнасьць, з якой паліцыя пайшла насустрач запатрабаваньням ліквідатараў, паказала масам сапраўдны твар здраднікаў.

У маі сабраўся III зьезд чырвоных профсаюзаў, на які з 121 раней выбраных на зьезд дэлегатаў прыбыло 111 дэлегатаў. Гэта лепш за ўсе даказвае, што членскія масы асталіся вернымі прынцыпам Профінтэрну. Ліквідатары і на гэты раз зьвярнуліся за дапамогай паліцыі супроць „нелегальнага зьезду". Зьезд быў разагнаны паліцыяй, але сабраўся ў другім месцы, каб канчаткова завяршыць разрыў з ліквідатарскімі элемэнтамі.

*Зьезд вынес рашэньне* аб рэорганізацыі Міжнацыянальнага аб'яднаньня саюзаў у індустрыяльныя саюзы на базе прадпрыемстваў *і ачышчэньня сваіх радоў ад ліквідатараў*, указаўшы чырвоным саюзам новы шлях барацьбы за большасьць рабочае клясы.

## На новым шляху.

Ня гледзячы на раскол, *чырвоныя саюзы пасьля III зьезду сталі на новы шлях організацыі самастойных баёў супроць зьніжэньня зарплаты і звальненьняў.*

У маі 1929 г. чырвоныя саюзы кіравалі барацьбой 30.000 сельгасрабочых у Славакіі,—барацьбой, якая была вялікім наступленьнем працоўных мас супроць вырашэньня аграрнага крызісу шляхам далейшага ўзмацненьня рацыяналізацыі. Непасрэднай прычынай барацьбы паслужыў ганебны колектыўны дагавор, які прадугледжваў меры, накіраваныя да зьніжэньня ліку рабочых, падвышэньня выпрацоўкі і падаўжэньня рабочага дня.

Становішча сельскагаспадарчага пролетарыяту было жудасным. Прадпрыемцы плацілі маладым рабочым 5—6 крон у дзень, жанчынам—6—8 крон і мужчынам—8—10 крон у дзень, незалежна ад працягласьці рабочага часу. Новы дагавор павінен быў такое становішча замацаваць, а ў некаторых адносінах нават пагоршыць.

Забастоўка зьявілася натуральным адказам чырвоных саюзаў і рабочых мас на гэта наступленьне буржуазіі і соцыял-фашыстаў. Ужо першыя дні барацьбы паказалі, як моцна абвостраны клясавыя супярэчнасьці паміж працай і капіталам. З аднаго боку стала сіла рэволюцыянізаваўшыхся мас, а на другім баку—шалёны тэрор капіталістаў і ўсяго дзяржаўнага апарату.

Ужо ў першыя дні ў бастуючых раёнах было ўведзена надзвычайнае становішча. Былі забаронены ўсякія сходы, конфэрэнцыі, нарады і дэмонстрацыі. Нікто ня сьмеў паказвацца ў грамадзкіх мясцох. Пасьля дзевяці гадзін увечары нельга было выходзіць на вуліцу. Гасьцініцы і рэстораны зачыняліся а восьмай гадзіне ўвечары. На вуліцы забаранялася згрупаваньне больш двух асоб. За парушэньне гэтай пастановы кожны мог быць арыштаваны паліцыяй, пры гэтым супроць яго распачыналася судовая справа.

Дзяржаўныя чыноўнікі самі склікалі бастуючых на сходы. Пры дапамозе начальніцкага аўторытэту, яны пробавалі пераканаць рабочых вярнуцца на работу.

Жандары сталі самі абыходзіць бастуючых, даказваючы ім, што яны вядуць „дарэмную барацьбу“. Жандары раілі рабочым у іх уласных інтарэсах зараз-жа распачаць работу. Пры гэтым як толькі жандармэрыя даведвалася, хто зьяўляецца членам стачачнага комітэту, яна зараз-жа яго арыштоўвала.

Усяго было арыштавана 42 члены стачкомаў і профработнікаў.

*Экономічная барацьба яўна перарастала ў барацьбу політычную.* Рабочыя змагаліся супроць фашыцкага рэжыму, за права *стачак, за адкліканьне жандараў.*

*Рэволюцыйныя саюзы павінны былі перайсьці да нелегальнай організацыі забастоўкі.* Бастуючым былі даны ўказаньні перабудаваць стачачнае кіраўніцтва на нелегальнай аснове, былі прыняты меры да выпуску нелегальных газэт, лятучак і г. д., з прычыны таго, што ўсе легальныя лятучкі конфіскаваліся жандарамі і спальваліся на пошце. Адначасова былі організаваны нелегальныя нарады і конфэрэнцыі, якія рабіліся ў палёх, лясох, садох параўнаўча з вялікім посьпехам.

Аднак, ня гледзячы на гэта, не ўдалося ў поўнай меры прарваць фронт капіталізму і соцыял-фашызму. Галоўны недахоп забастоўкі заключаецца ў тым, што наступленьне пролетарыяту ня было разьвернута на ўсю шырыню. У той час, як на паасобных вучастках фронту наступіў заняпад баявога духу, другія вучасткі толькі пачыналі ўступаць у бой.

Паасобныя прадпрыемцы, ня маючы магчымасьці выкарыстаць штрэйкбрэхераў, пачалі перагаворы на сваю рызыку і страх, парушыў такім чынам дысцыпліну ў сваіх радох.

Гэта прывяло ўсю організацыю прадпрыемцаў да таго, што яна дазволіла ва ўсіх раёнах згадзіцца на падвышэньне зарплаты на 10 проц., і калі рабо-

чыя не адазваліся на іх заклік, яны рашылі падвысіць зарплату яшчэ на некалькі процантаў.

Такім чынам ім ўдалося адцягнуць рабочых ад асноўнага патрабаваньня, а іменна—ад патрабаваньня аб заключэньні колектыўнага дагавору для ўсёй Славакіі. Аднак, ня гледзячы на гэта, забастоўка ў цэлым радзе месц дала значнае падвышэньне зарплаты (у некаторых мясцох да 20 проц.).

Апрача забастоўкі сельгасрабочых чырвоныя саюзы вялі забастоўку 1.600 каменшчыкаў ў Сылезіі, і сьледам за ёю ўспыхнула забастоўка гарнякоў у Паўночнай-Чэхіі,—забастаўка, якая дала чырвоным саюзам вялікі вопыт.

Непасрэднай прычынай забастоўкі гарнякоў зьявілася звальненьне чырвонага старшыні фабзаўкому на шахце „Анна Ондржэй“ і рацыяналізатарскія мерапрыемствы. На працягу некалькіх дзён стачка ахапіла 26 шахт і больш 15.000 гарнякоў (палова рабочых усёй акругі).

Забастоўка, да якой рабочыя на ўсіх прадпрыемствах далучыліся з найвялікшай аднадушнасьцю і рашымасьцю адваяваць уласныя патрабаваньні, а іменна—падвышэньне зарплаты і поўную ахову ўпаўнаважаных, наткнулася ня толькі на шалёны адпор буржуазнай улады, але і на зусім адкрытае штрэйкбрэхерства соцыял-фашыстаў. У той час як рабочыя ў некаторых выпадках прымусілі шляхам дэмонстрацыі вывесьці жандараў з шахт, у той час, калі гарняцкая моладзь і гарнячкі, організаваныя

і не організаваныя вялі барацьбу на вуліцах, рэформісты разам з угольнымі баронамі пачалі ганебнае наступленьне супроць бастуючых.

Соцыял-фашысты перайшлі да адкрытага штрэйкбрэхерства і фашыцкага тэрору. Спачатку соцыял-фэшысты ўступілі пад націскам сваіх членаў і згадзіліся на тое, каб на тых шахтах, дзе яны знаходзяцца ў меншасьці, іх члены таксама забаставалі! Аднак у той-жа час яны рыхтаваліся нанесьці бастуючым моцны ўдар у сьпіну. На сваёй акруговай конфэрэнцыі, скліканай 20 кастрычніка, соцыял-фашысты высунулі генэральны лёзунг аб аднаўленьні работы і разам з прадпрыемцамі і жандарамі пачалі гвалтоўна прымушаць ісьці рабочых на прадпрыемствы. Аднак штрэйкбрэхерскі тэрор накіраваўся і супроць уласных членаў соцыял-фашыцкіх організацый, паколькі апошнія ўдзельнічалі ў забастоўцы. Соцыял-фашыцкія функцыянэры хадзілі па дамох і пагражалі сваім бастуючым членам, што калі яны ня вернуцца на работу, то іх звольняць. Жандармэрыя заняла ўсе гарняцкія паселішчы. У чатыры гадзіны раніцы жандары будзілі гарнякоў і цягнулі іх з ложку прама ў шахты. Стачачныя комітэты былі распушчаны. Дэмонстрацыі і мітынгі забараняліся і разганяліся. У некалькіх паселішчах было ўведзена надзвычайнае становішча і рад актыўных рабочых кінуты ў турмы. Такім чынам у гэтай барацьбе зноў праявіўся сапраўдны характар буржуазнай дзяржавы і фашызацыя яго апарату і рэформіцкіх саюзаў.

У першыя гады існаваньня Чэха-Славацкай рэспублікі палітычныя сходы як адкрытыя, так і закрытыя, рабіліся бяз усякага папярэдняга дазволу ўлады. На такія сходы прадстаўнікі паліцыі ня сьмелі нават і паказвацца. Настолькі моцны быў рэволюцыйны настрой мас, узбуджаных вайной і расійскай рэволюцыяй.

Социял-дэмократы першыя пачалі клапаціцца аб парадку. Перш-на-перш акруговае паліцэйскае кіраўніцтва запатрабавала ад палітычных організацый паведамляць аб устройстве сходу з мэтай, каб улада ведала аб сходах палітычных партый і магла-б падтрымліваць парадак. Калі-ж рабочыя ўспраціўіліся гэтаму, здраднікі социял-дэмократы пачалі самі пераконваць рабочых паведамляць аб сходзе. „Бо паліцэйскі комісар усёроўна ня прыдзе да вас на сход, справа ідзе аб простай формальнасьці",— дадавалі яны. Аднак, паліцэйскія чыны пачалі зьяўляцца на сходах, пры гэтым адзін заўсёды ў форме, а другі—тайны агент—у штацкім. Рабочыя ў большасьці сустракалі прыход паліцэйскіх бурнымі протэстамі, патрабуючы, каб яны выходзілі, інакш іх выкінуць.

Паліцэйскі комісар звычайна зварочваўся да дакладчыка з просьбай растлумачыць прысутнічаючым, што прамова ідзе не аб паліцэйскай дапамозе або аб абмежаваньні свабоды. Улада накіроўвае свайго прадстаўніка на сход, для таго, каб

:нформаваць іх аб настроі народу і быць у непасрэдным „датыканьні да грамадзкасьці!“

Аднак, у хуткім часе паліцэйскія ня толькі пачалі хадзіць на агульныя сходы, але пачалі нават і распускаць іх, калі ім не падабаліся выступленьні рэволюцыйных рабочых або дакладчыкаў.

Сходы-ж комуністычнай партыі паступова ўсё часьцей і часьцей пачалі забараняцца.

*У сучасны момант забарона і разгон комуністычных сходаў зьяўляюцца звычайнай справай.*

Роспуск сходу адбываецца наступным чынам: паліцэйскі комісар патрабуе ад старшыні указаць прамоўцу, каб ён зьмягчыў свае выразы, калі ён гаворыць праўду аб прыгнёце рэспубліканскага ладу, аб згаленьні, капіталістычнай рацыяналізацыі, хабарніцтва і іншых „прывабах“ капіталізму. Калі прамоўца гаворыць аб арміі і заклікае, напрыклад, салдат не забываць аб сваім пролетарскім паходжаньні, то паліцэйскі комісар звычайна не папярэджвае, а адразу зачыняе сход. Формула яго вельмі кароткая: імем закону сход распускаецца!

Гэтым, аднак, справа яшчэ не канчаецца. К моманту зачыненьня сходу ў памяшканьне зараз-жа ўрываецца выкліканая шпікамі паліцыя, схаваная на вуліцы, якая пры дапамозе гумовых палак пачынае выганяць удзельнікаў сходу на вуліцу, дзе дэманстрантаў чакае новы кордон пешай і коннай паліцыі.

Калі ўдзельнікі прабуюць, а ўдзельнікі комуністычных сходаў звычайна сапраўды прабуюць арга-

нізаваць дэманстрацыю, то на іх кідаецца паліцыя і зьбівае іх дубінкамі без разбору, арыштоўвае тых, каторыя не пасьпяваюць хутка „разыйціся“, пасьля чаго яны прыгарваюцца да арышту ў паліцыі на 14 дзён. Па адбыцьці кары абвінавачаныя прыцягваюцца да суду.

Суд—вельмі просты і скоры. Сьведкай зьяўляецца паліцэйскі вартаўнік, і яго паказаньні зьяўляюцца рашаючымі нават ў тым выпадку, калі-б абвінавачаны прывеў дзесяць сьведак, доказваючых адваротнае.

„Супраціўляўся паліцыі!“ „крычаў: „Далоў паліцыю!“ „кінуў у паліцыю каменем! “—такія звычайна паказаньні паліцэйскіх, на падставе якіх рабочыя прысуджваюцца да чатырох тыдняў, а часам і на некалькі месяцаў турэмнага зьняволеньня.

Умоўнага асуджэньня для рабочых, схваченых на рэволюцыйных дэмонстрацыях, не існуе. Таксама на іх не пашыраюцца ільготы палітычных зьняволеных.

На падставе § 2 старога закону аб сходах чаооў Аўстрыі *кожны грамадзянін мае права склікаць закрыты сход, удзельнікі якога павінны прад'яўляць запрашэньне, разасланае або выданае не пазьней чым за гадзіну да пачатку сходу, або яны павінны быць арганізатару сходу асабіста знаёмыя.* На падставе гэтага параграфу палітычныя партыі склікаюць усе свае членскія сходы, канфэрэнцыі і зьезды. Паліцыя мае права правяраць, ці выконваюцца ўсе законныя прадпісаньні, ці ўсе

ўдзельнікі сходу маюць запрашэньне, і адразу-жа пасьля правядзеньня праверкі яна павінна пакінуць памяшканьне. Але ў капіталістычнай дзяржаве кожны закон ужываецца так, як гэта выгадней буржуазіі.

А з прычыны гэтага сходы комуністычнай партыі, што склікаюцца на падставе гэтага параграфу, часта распускаюцца.

Перад 1 жніўня, міжнародным днём барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны, і перад 7 лістапада, гадавінай Кастрычніцкай рэволюцыі, таксама як і ў міжнародны дзень моладзі, увесь поліцэйскі апарат мобілізуецца для таго, каб сачыць за комуністычнымі сходамі.

Перад 1 жніўня поліцыя ня толькі распускае сходы, але нават прыступае звычайна да арыштаў усіх ўдзельнікаў. Аднначасова робяцца вобыскі у сакратарыятах політычных і профсаюзных організацый, дзе шукаюцца нелегальныя праклямацыі, конфіскуюцца пішучыя машынкі і звычайныя, нават з пункту гледжаньня буржуазнай дэмократыі, бяскрыўдныя матэрыялы. На расьвітаньні ў кватэрах актыўных працаўнікоў робяцца арышты, якія аднак поліцыя называе не арыштам, а „забесьпячэньнем парадку“. Поліцыя адвозіць арыштаваных у поліцэйскую турму, дзе трымае іх бяз допыту два ці тры дні, а па сканчэньні дня, на каторы назначана дэмонстрацыя, аслабаняе іх бяз усякіх тлумачэньняў з прычыны арышту. Само сабой зразумела, што гэтыя сродкі ня могуць перашкодзіць утвараньню дэмонстрацыі і стачак.

У Празе да такіх дзён асабліва пільна рыхтуюцца. Апрача мобілізацыі ўсяе поліцыі ў Прагу сьцягваюцца жандарскія атрады, якія перагароджваюць рабочым з вёсак шлях у горад і вартуюць унутраную частку гораду ад дэмонстрацыі з пэрыфэрыі. У цэнтры гораду на Вацлаўскім пляцы з двух бакоў тратуару расстаўлены атрады поліцыі і жандармэрыі на ўсю даўжыню пляцу. У дамох схаваны падмацаваньні нашай поліцыі. На бліжэйшых вуліцах стаіць напагатове конная поліцыя. На тротуарах пляцу ніхто ня мае права спыняцца. Сярод натоўпу шныраюць шпікі. Яны сочаць за кожным рухам рабочых, каторыя прыходзяць на пляц. У дакладна прызначаны час рабочыя прабуюць прабрацца да пэўнага месца на пляцы. На імпровізаваную трыбуну падымаецца партыйны прамоўца, каб растлумачыць значэньне дэмонстрацыі і задачы рэволюцыйнага руху. Поліцыя кідаецца на натоўп, разганяе яго гумовымі палкамі і хоча дабрацца да прамоўцы. Калі ёй гэта ўдаецца, яна сьцягвае яго з трыбуны, арыштоўвае і адводзіць у комісарыят. Але рабочыя зьбіраюцца ўжо ў другім месцы, дзе зноў выступае рэволюцыйны оратор. Па ўсім пляцы чуюцца колектыўныя воклікі: Далоў імпэрыялістычную вайну! Няхай жыве Савецкі Саюз! Далоў урад голаду! і г. д. Дэмонстрацыі адбываюцца да позьняга вечару. Поліцыя робіць масавыя арышты, безьлітасьна б'е рабочых гумовымі палкамі. Буржуазія зьнікае з вуліц, на якіх застаюцца толькі рабочыя і поліцэйскія.

На наступны дзень буржуазныя і соцыял-фашыцкія газэты пішуць аб самым „поўным правале“ чырвонага комуністычнага дня, але пры гэтым паведамляюць, што было арыштавана некалькі дзесяткаў або соцень дэмонстрантаў.

Часта справа даходзіць да сапраўдных стачак, у час каторых паліцыя або жандармэрыя пускае у ход агнястрэльную зброю. Перад міжнародным зьлётам піонэраў у ліпені 1930 г. ў Берліне юныя піонэры Чэха-Славакіі рыхтаваліся да організацыі свайго дзіцячага дня ў Празе. Буржуазія забараніла усякія дэмонстрацыі дзяцей, баючыся, што чырвоныя гальштукі юных піонэраў могуць парушыць сыты пакой праскіх мяшчан. Юныя піонэры парашылі накіравацца за горад, на ўлоньне прыроды, і наладзіць там сустрэчу і змычку з сялянскімі дзецьмі праскіх ваколіц у бліжэйшай вёсцы Радоціне. Падышоўшы да вёскі, процэсія дзяцей раптам наскочыла на кардон жандараў, заступіўшых ім дарогу. Жандары стаялі моўчкі і далі дзецям падыйсьці да сябе на некалькі крокаў. Потым яны павольна паднялі стрэльбы, накіраваўшы іх на ціха стаяўшых дзяцей, якія з жудасьцю глядзелі на жандараў. Пачуўся залп, і чацьвера дзяцей паваліліся, абліваючыся крывёю.

Так учыняла расправы буржуазія нават над дзецьмі рабочых. А соцыял-фашысты? Яны стараліся праўзваліць адказнасьць на комуністаў, з усіх сіл прабуючы давесьці, што жандары не вінаваты, што дзеці былі паранены стрэлам аднаго жандара, жыць-

цю якога паграджала небясьпека. Выпушчаная ім куля рыкошэтам ударылася аб зямлю. „Зачапіла" чацьвярых дзяцей (! ?).

Дзіўная самаахова жандара ад мірна стаяўшых 10 і 12—гадовых дзяцей, дзіўны стрэл, якім паранена чацьвёра дзяцей, адзін у руку, другі — у нагу, трэці—у лёгкія, а чацьверты—у жывот.

Яшчэ адзін невялічкі ўзорчык фашызацыі дэмократычнай рэспублікі Масарыка. Звычайнай зьявай было, што рабочыя і дакладчыкі на сходах часта абвяшчалі: „Няхай жыве Савецкі Саюз!" Але ў сувязі з крызісам і вайсковымі падрыхтоўкамі гэтыя воклікі зрабіліся небясьпечнымі. Калі адзін рабочы, у часе праходжаньня дэмонстрацыі буржуазіі, ня мог устрымацца ад выражэньня сваёй клясавай нянавісьці і крыкнуў: „Няхай жыве Савецкі Саюз!"— ён зараз-жа быў арыштаваны. Выявілася, што ён чыгуначнік. Яго звольнілі з дзяржаўнай службы, пасадзілі ў турму і прысудзілі да чатырох месяцаў зьняволеньня. А суд абгрунтаваў свой прыгавор тым, што той, хто абвяшчае: „Няхай жыве СССР!" салідарызуецца з дзяржаўнай формай, аснаванай на дыктатуры і таму ён зьяўляецца супраціўнікам дэмократычнага строю Чэха-Славацкай рэспублікі і павінен быць пакараны на аснове закону аб абароне рэспублікі. Калі-ж абаронца абвінавачанага пачаў даказваць сьмяхотнасьць такога абвінавачваньня, запытаўшы, чаму ў такім выпадку не пакараны вокліч „Няхай жыве Югаславія!", дзе існуе монархічны лад, які таксама зьяўляецца супраціўнікам дэмократычна-

рэспубліканскай формы Чэха-Славакіі, суд ня стаў ламаць галаву над доказам і застаўся пры сваёй думцы. Вярхоўны суд прыгавор гэты ў першапачатковай формулёўцы і на аснове тых-жа вывадаў цалкам зацьвердзіў.

Вось якой небясьпекай зьяўляецца існаваньне Савецкага Саюзу для дэмократычнай Чэха Славацкай буржуазіі і'соцыял-фашыстаў.

## Супроць наступленьня капіталістаў.

З нарастаньнем вострага экономічнага крызісу капіталісты пачалі *новае наступленьне супроць рабочае клясы.* Іх удар быў накіраваны ў першую чаргу на прадпрыемствы з рэволюцыйнымі рабочымі і моцнымі позыцыямі чырвоных саюзаў. Наступленьне капіталістаў на рэволюцыйныя крэпасьці павінна было ачысьціць шлях для далейшага ўзмацненьня капіталістычнай рацыяналізацыі, звальненьне рабочых і выкарыстоўваньне таннай працы жанчын і моладзі пры агульным зьніжэньні зарплаты.

Першы напад капіталістаў быў зроблен у студзені 1930 г. у шкляной прамысловасьці На дзьвух буйнейшых гутах у Олове і Рыхнове, у гэтых двух цытадэлях рэволюцыйнага саюзу капіталісты прыступілі да звальненьня 1000 рабочых. Гутнікі адказалі забастоўкай на абодвух заводах. Рабочая маса аднадушна змагалася супроць звальненьняў, добра ведаючы, што гэта звальненьне зьяўляецца першым націскам на экономічнае становішча рабочых

і на рэволюцыйныя організацыі, як найлепшых абаронцаў рабочых інтарэсаў. Ступень паляваньня рабочых была настолькі моцная, што ўжо ў першыя дні забастоўкі рабочыя стыхійна загасілі печы, каб перашкодзіць якой-бы то ня было штрэйкбрэхерскай рабоце.

Зусім іншае разьвіцьцё атрымала, аднак, ужо ў чэрвені 1930 г. барацьба мэталістаў у Карлавай Хуце, у Астроўскім вугольным раёне. На спробу зволіць 700 рабочых пролетарыят Карлавай Хуты пад кіраўніцтвам рэволюцыйнага фабзаўкому адказаў масавай стачкай і бурнай дэмонстрацыяй перад прадпрыемствам ня толькі пры ўдзеле рабочых, занятых на заводзе, але і іншых жонак і дзяцей.

Ня гледзячы на меры, прынятыя жандармэрыяй, гарнякі адваявалі сабе права на вуліцу і сваім баявым наступленьнем прымусілі капіталістаў пайсьці на ўступкі. Распараджэньне аб звальненьні рабочых было ўзята назад, усе рабочыя колектыўна вярнуліся на работу, і дабіліся таго, што за ўдзел у руху ніхто ня быў звольнен.

Гэта перамога адбілася і на становішчы чырвонай організацыі. На фабрычна-заводзкіх сходах, абгаварваўшых ход барацьбы, рабочыя вынасілі масавыя рашэньні, аб колектыўным уступленьні ў чырвоныя профсаюзы, а найбольш актыўныя з іх уступалі ў комуністычную партыю. Фабрычна-заводзкая чырвоная організацыя вырасла на працягу некалькіх дзён з 800 членаў да 1200. Прайшоўшыя пасьля гэтага выбары ў фабзаўком паказалі, што чырвоная

організацыя разграміла апошнюю позыцыю хрысьціянскіх соцыялістаў і рэформістаў і цалкам ўзяла прадпрыемства ў свае рукі.

У хуткім часе пасьля гэтага пачалася бойка тэкстыльных работніц у горадзе Фрыдке. Повадам да барацьбы паслужыла спроба прадпрыемцаў зьнізіць зарплату тэкстыльшчыц на 5—6 проц. Прадпрыемцы не адважыліся правесьці гэта зьніжэньне па усіх прадпрыемствах і спачатку толькі вывесілі абвестку аб зьніжэньні зарплаты на аднэй фабрыцы. Але работніцы зразумелі, што справа ідзе не аб аднэй фабрыцы, а аб усёй тэкстыльнай прамысловасьці гэтай вобласьці. На гэтай фабрыцы ў адказ на абвестку аб зьніжэньні зарплаты рабочыя зараз-жа кінулі работу і склікалі фабрычны сход, на каторым было рашано зрабіць дэмонстрацыю на вуліцы. Рабочыя прарвалі кордон жандараў і шчыльнымі радамі накіраваліся да бліжэйшых прадпрыемстваў, дзе работа ў сваю чаргу была зараз-жа спынена, і вялізная дэмонстрацыя накіравалася да наступных прадпрыемстваў. Такім чынам, на працягу няпоўных двух гадзін работу спынілі ўсе 10 фабрык (больш 8.000 рабочых). Баявая энэргія рабочых напужала капіталістаў. Яны зьвярнуліся да чырвонай організацыі з просьбай пачаць перагаворы; хаця да гэтага ніхто з чырвонымі організацыямі гаварыць не хацеў, і дагаворы заключаліся выключна з соцыял-фашыцкімі хрысьціянска-соцыялістычнымі організацыямі. Цяпер, калі выявілася, што апарат соцыял-фашыстаў ня можа падавіць баявы настрой рабочых, прад-

прыемцы павінны былі прызнаць рэволюцыйную організацыю як адзінага і галоўнага прадстаўніка рабочых.

Аб карэннай зьмене становішча сьведчыць таксама і той факт, што па сканчэньні перагавораў з прадпрыемцамі, у час якога прадпрыемцы адмовіліся ад якога-б там ня было зьніжэньня зарплаты і абавязаліся зьнішчыць усе ненармальнасьці і задаволіць запатрабаваньні рабочых, было выпушчана офіцыяльнае паведамленьне, у якім гаварылася, што „аднаўленьне работы забясьпечана, з прычыны таго, што згоду падпісаў прадстаўнік рэволюцыйнай організацыі і комуністычны дэпутат Клімэнт“.

Посьпех барацьбы выявіўся таксама ў масавым ўступленьні тэкстыльных работніц у чырвоныя профсаюзныя організацыі. На ўсіх прадпрыемствах была створана аснова для пабудовы фабрычна-заводзкіх організацый, у якія ў першыя-ж дні аднаўленьня работы ўступіла некалькі соцень неорганізаваных да таго часу рабочых і работніц.

Гэтыя баі зьяўляюцца пераломам па шляху выхаваньня чырвоных саюзаў. Рэволюцыйныя організацыі мацнеюць у барацьбе з капіталізмам і соцыял-фашызмам.

Масы, поўныя баявой энэргіі і рашучасьці адбіць напад прадпрыемцаў, знаходзяць свайго кіраўніка ў асобе чырвоных профсаюзаў, якія, не гледзячы на усе слабасьці і недахопы, выконваюць сваю задачу організатара рабочых мас для новых надыходзячых баёў.

## Расьце нястача і беспрацоўе.

Колёсальны рост беспрацоўя ў выніку крызісу звальненьняў і зачыненьня прадпрыемстваў зноў высунуў на першы плян барацьбу супроць генцкай сыстэмы дапамогі па беспрацоўі, уведзенай у Чэха-Славакіі з 1925 г. Сэнс *генцкай сыстэмы*, назва якой была ўзята ад бельгійскага гораду Гента, дзе яна была ўпяршыню ўведзена, заключаецца ў тым, што *дзяржава не аплачвае цалкам грашовай дапамогі па беспрацоўі, а толькі даплачвае частку да дапамогі, якая выдавалася профсаюзнай арганізацыяй.*

У выніку гэту дапамогу атрымоўваюць толькі члены профсаюзнай организацыі, а неорганізаваныя асуджаны на голад. Адначасова генцкая сыстэма паскарае зрастаньне профсаюзнай организацыі з апаратам буржуазнай дзяржавы, з прычыны таго, што ён мае права контролю над фондам па беспрацоўі і можа пазбаўляць организацыю належачых ёй сум на выплату дапамогі.

Такім чынам профсаюзныя организацыі са зброі барацьбы супроць капіталізму пeратвараюцца ў простыя таварыствы дапамогі, супрацоўнічаючыя з капіталістычнай дзяржавай, якія бачаць у справе выдачы грашовай дапамогі, галоўнае прызначэньне организацыі. З другога боку лік ахопліваемых дапамогай значна паменшыўся, а імення з 300.000 беспрацоўных жабрацкую дапамогу атрымоўваюць ўсяго 30.000 чал., што азначае вялікую экономію для буржуазнай дзяржавы.

Перад увядзеньнем генцкай сыстэмы *дзяржава выплачвала ў сярэднім ад 200.000.000 да 300 000.000 крон у год. Пасьля ўвядзеньня генцкай сыстэмы яна выплачвае ў сярэднім 20.000.000 крон у год.*

Чырвоныя профсаюзы, рашуча змагаючыся супроць генцкай сыстэмы, паказваюць шырокім масам хлусьню яе на тое, што генцкая сыстэма праводзіць да падзелу рабочыя клясы на арганізаваных і неарганізаваных, да падзелу беспрацоўных на атрымоўваючых дапамогу і не атрымоўваючых яе і тым самым да *распыленьня рабочых сіл* перад тварам капіталізму. *Чырвоныя профсаюзы прызываюць* усіх рабочых да барацьбы супроць генцкай сыстэмы, за *выплату дзяржаўнай дапамогі ў разьмеры зарплаты за ўвесь час беспрацоўя ўсім беспрацоўным* незалежна ад таго, арганізаваны яны ці не арганізаваны.

А як беспрацоўныя адгукаюцца на прызыў комуністычнай партыі і чырвоных саюзаў—аб гэтым сьведчыць наступнае паведамленьне буржуазнага друку.

## ШТОДЗЕННЫЯ ДЭМОНСТРАЦЫІ Ў ПРАЗЕ.

„Амаль штодзенна калі поўдня, калі ў празе зачыняецца пасярэдніцкае біоро па найме рабочых, называемае біржай працы, групы беспрацоўных накіроўваюцца на прылягаючыя вуліцы і пляцы, дзе яны пад кіраўніцтвам комуністычных агітатараў агалашаюць лёзунгі: „Хлеба і працы!“ і г. д. Звычайна комуністычны дэпутат зварочваецца з прамовай да сабраўшыхся; яго арыштоўваюць, адводзяць у комісарыят, а потым аслабаняюць. Натоўп у той-жа час разыходзіцца. Дапамогі ён не арганізуе, а між тым трэба сказаць, што *ў Празе беспрацоўе прымае* сапраўды *трагічныя разьмеры*“.

*Буржуазія і соцыял-фашысты імкнуцца падавіць нездавальненьне і наступленьне мас усякімі манэўрамі.* У Празе буржуазна-соцыял-фашыцкая дума паспрабавала паменшыць узрастаючае нездавальненьне, не карыстаючыся дапамогай беспрацоўных абяцаньнем, што ў дні 1 і 2 лістапада будзе зроблен грашовы збор сярод усяго насельніцтва на карысьць беспрацоўных. У зьвязку з гэтым комуністы прызвалі беспрацоўных да масавага выступленьня перад банкамі і прадпрыемствамі з тым, каб банкіры, буйныя прамыслоўцы, фабрыканты і купцы таксама унесьлі сваю частку ў дзень збору. Пасьля выпуску гэтай адозвы буржуазія да таго напалохалася вынікаў, што ўлада забараніла збор, які меркаваўся. Масавы рух беспрацоўных пад кіраўніцтвам чырвоных саюзаў усё больш ўзмацняецца. Генцкая сыстэма трашчыць пад націскам чырвоных саюзаў і масавага наступленьня беспрацоўных.

Крызіс і беспрацоўе зьяўляюцца адначасова прычынай вялікага росту самагубства рабочых, работніц і служачых, каторыя не ўразумелі неабходнасьці рэволюцыйнай барацьбы супроць капіталістычнага ладу.

18 кастрычніка ў чэскіх Будэйовіцах страціла розум удава комунальнага рабочага Марыя Цьвейнава, меўшая двух дзяцей. Яна была звольнена з работы на прадпрыемстве Гардмута. У вялікім нястатку яна два разы спакушалася на самазабойства. Абодва разы яе ўдалося выратаваць, але, нарэшце, трэба было завезьці яе ў дом страціўшых розум у Дахране. Тут сапраўды нэрвы адыгралі ракавую ролю.

24 кастрычніка з мэтай самазабойства кінуўся з чацьвертага паверху аднаго будынку ў Вінаградах 36-гадовы дворнік і разьбіўся на сьмерць. У дзень спакушалася на самагубства 15-гадовая Марыля І. з Міхлю. 24 кастрычніка стрэлам сьмяротна параніў сябе ў Лібэрцэ гандлёвы агент пасьля цяжкай няўдачы ў сваіх справах. У той-жа дзень, 24 кастрычніка, у Празе чыгуначны служачы Іозэф Ван: застрэліўся ў сваёй кватэры ў адсутнасьці жонкі і дачкі. Мотывы самазабойства—цяжкае матэрыяльнае становішча. Рабочы Адольф Бэк, 50 год ад роду, быў знойдзен у канцы кастрычніка павесіўшымся. Хоць газэта „Вячэрняе Чэскае Слова“ паведамляла, што Бэк павінен быў у апошні час здабываць сабе хлеб усякімі спосабамі і ў большасьці спаць пад адкрытым небам, поліцыя сьцьвярджае, што зрабіў ён гэта ў становішчы шаленства. У Пшыбраме 19 кастрычніка ў рэсторане застрэліўся 19 гадовы вулканізатар Міраслаў Собок. 3 лістапада а пятай гадзіне напоўдні невядомы юнак кінуўся ў Гостэваржэ пад цягнік. 9 лістапада ў Празе было чатыры самагубствы. У готэле знайшлі атручаную 35 гадовую жанчыну. У Вінаградах адна хатняя працаўніца атруцілася сьвяцільным газам.

*Чым глыбей крызіс, тым цяжэй падатковы цяжар працоўных мас* і тым больш падатковых палёгак для буржуазіі. Узіманьне падатку для буржуазіі натыкаецца, па словах міністра фінансаў, на вялікія „перашкоды“, якія, аднак, не сустракаюцца пры ўзіманьні падатку з рабочых. У іх капіталісты зьдзі-

раюць з зарплаты да 20 проц. падатку, пакідаючы іх на хранічны голад.

Фінансавая сыстэма капіталістычнай рэспублікі— гэта колёсальная машына для высасваньня сокаў з рабочых і малазямельных сялян на карысьць капіталу.

Далоў ускосныя падаткі! Далоў падаходны падаткі! Далоў падаткі з зарплаты! Спыненьне усіх судзебных пастаноў, якія вынесены супроць рабочых і малазельных сялян! Аслабаненьне рабочых і малазямельных сялян ад усіх падаткаў—гэткія запатрабаваньні, за якія працоўныя гораду і вёскі адзіным фронтам пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі разгортваюць рашучы бой.

А аб тым, як вядзецца гэты бой, сьведчыць наступнае паведамленьне.

„У панядзелак 10 лістапада ў павятовы горад Волаву, у Закарпацкай Украіне, сабраліся з навакольных сёлаў сяляне ў колькасьці 200 чалавек і накіраваліся пад кіраўніцтвам дэпутата тав. Седар'яка ў павятовае кіраўніцтва з патрабаваньнем найхутчэйшага спыненьня падатковых экзэкуцый (выкананьне судовых прыгавораў). Прадстаўнікі працоўных сялян дзевяці вёсак (усіх вёсак у павеце ёсьць 26) падалі пісьмовы протэст супроць падатковага цяжару, падпісаны некалькімі тысячамі сялян. Большасьць сельскіх кіраўніцтваў падцьвярдзіла гэтыя пісьмовыя протэсты.

У іншых паселішчах таксама ідзе барацьба за спыненьне падатковых экзэкуцый. На заяву

аб прыняцьці запатрабаваньняў ад працоуных сялян павятовае кіраўніцтва мобілізавала жандармэрыю ўсяго павету, так што з часу сусьветнай вайны, калі праз Волаву прайшлі некалькі раз царскія і аўстрыйскія войскі, гэты гарадок ня бачыў такой масы ўзброенага войска. Адначасова камітэты дзеяньня беспрацоуных прад'явілі запатрабаваньні аб дзяржаўнай дапамозе. Настрой удзельнікаў быў баявы.

Сяляне, якія яшэ нядаўна знаходзіліся пад уплывам аграрнай і іншый буржуазнай партыі, масамі далучаюцца да выступленьня за хутчэйшае спыненьне экзэкуцый. Барацьба разгортваецца таксама і ў іншых падкарпацкіх акругах".

## Набліжаецца дзень канчатковай перамогі.

Гэткія абставіны, у каторых жыве і змагаецца чэха-славацкі рабочы.Крызіс сусьветнага капіталізму, які разгарнуўся ва ўсёй моцы біржавым крахам у Амэрыцы ў кастрычніку 1929 г., абвастрае экономічны крызіс Чэха-Славакіі. Буржуазія імкнецца знайсьці выхад з крызісу мэтодамі фашызму і ўзмоцненай падрыхтоўкі вайны, галоўным чынам супроць СССР. Соцыял-дэмократы сталі асноўнай сілай, пры дапамозе якой буржуазія праводзіць наступленьне супроць рабочай клясы. Фашызацыя рэформіцкіх саюзаў завяршылася. Кожная экономіч-

ная барацьба рабочых супроць зьніжэньня зарплаты, звальненьняў, павялічэньня рабочага дня, прасьледваньні чырвоных профработнікаў, павялічэньня кватэрнай платы, уздаражаньня продуктаў, увядзеньне новых падаткаў зьяўляецца ясным доказам *перараджэньня рэформізму ў соцыял-фашызм,* у галоўную зброю экономічнага заняпаду і політычнага парабашчэньня ўсяе рабочае клясы.

Комуністычная партыя і чырвоныя профсаюзы зьяўляюцца адзінай сілай, організуючай растучае супраціўленьне пролетарыяту і яго контрнаступленьне супроць буржуазіі. Сымпатыі мас да чырвоных профсаюзаў і да комуністычнай партыі мацнеюць і растуць з кожным днём. У 1929 г. комуністычная партыя пры парляманцкіх выбарах атрымала больш 700.000 галасоў, яна зьяўляецца трэцяй партыяй па колькасьці членаў у краіне. Цяпер буржуазныя газэты прызнаюць, што ў Чэха-Славакіі так, як і ў Германіі новыя выбары скончыліся-б буйным ростам галасоў, адданых за комуністычную партыю. Буржуазія не помыляецца. Працоўныя масы гораду і вёскі ясна бачаць, што не Амстэрдам і II Інтэрнацыянал, ня мэтоды соцыял-фашыцкай політыкі супрацоўніцтва з буржуазіяй, а рэволюцыйны шлях барацьбы супроць буржуазіі і ўсіх яе саюзьнікаў зьяўляецца адзіным выхадам для працоўных. Не падлягае ніякаму сумненьню, што набліжаецца час, калі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ўздымецца новая вялікая хваля пролетарскай рэволюцыі, і на гэты раз пролетарыят будзе мець правадыра, якога ён

ня меў у 1918 годзе,—моцную комуністычную партыю і рэволюцыйны профрух. Загартаваўшыся ў цяперашніх баёх, яны павядуць пролетарыят Чэха-Славакії на апошні бой і да канчатковай перамогі.

---

# ЗЬМЕСТ

